


# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (1133) ГОД XXII БЕЛАСТОК 13 ЛІСТАПАДА 1977 г. ЦАНА 60 гр.


## ДРУЖБА ЯДНАЕ

Сардэчнае пачуццё сімпатыі да Савецкага Саюза і глыбокія веды па гісторыі станаўлення і развіцця адносін дружбы і яднання паміж савецкім і польскім народамі — вось што ўласціва працам, прысланым на конкурс **„Сярод сяброў“,** які быў аб'яўлены рэдакцыямі „Гродзенскай праўды“, „Газеты вспулчэснай“ і „Нівы“ ў сувязі са святкаваннем 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Прынёс ён надзвычай багаты плён: у рэдакцыю „Газеты вспулчэснай“ прыйшло 567 і **ў рэдакцыю „Нівы“ — 89 прац.**

Журы ў „Ніве“, адкрываючы канверты з працамі, часта замест кароткіх адказаў на 11 конкурсных пытанняў знаходзіла там абшырныя выказванні з цытатамі з розных публікацый або са ссылкамі на іх. З асаблівым піетызмам прыводзіліся імёны тых удзельнікаў Вялікага Кастрычніка, якія паходзяць з Беласточчыны, а таксама факты сяброўскага супрацоўніцтва нашага ваяводства з Гродзенскай вобласцю БССР. Зрэдку толькі здараліся невялікія памылкі ці недакладнасці ў падачы той ці іншай даты. Такі высокі ўзровень конкурсных прац радаваў журы, але адначасова ставіў перад ім не абы-якія цяжкасці з вылучэннем самых найлепшых сярод іх.

Пасля доўгай і праніклівай абмяркоўкі ўсіх найлепшых прац журы вырашыла прызнаць **галоўную** ўзнагароду **Галене Васілюк,** вучаніцы **Бельскага беларускага ліцэя,** пражываючай у Бельску, вул. Сянкевіча 3а, кв. 20. Яна разам з лаўрэатамі конкурсу, выбранымі ў рэдакцыі „Газеты вспулчэснай“ Янам Басалаем з Беластока і Здзіславам Сямёнам з Піша, паедзе ў Гродна дзе яны атрымаюць ўзнагароды, падрыхтаваныя ім рэдакцыяй „Гродзенскай праўды“. Пяць кніжных узнагарод прызнаны: **О. П. Базілюк** з Омска, вул. Лагоды 48, **Валянціне Леанюк** з Бельска, **Гражыне Калята** з Бельска, вул. Міцкевіча 50 А, кв. 27, **Анне Сарокін** з Бельска, вул. Міцкевіча 29 Ц, кв. 25 і **Леаніду Шэшка** з Бельскага беларускага ліцэя. Яны атрымаюць узнагароды разам з 25 лаўрэатамі, выбранымі ў рэдакцыі „Газеты вспулчэснай“.

Пераможцаў віншуем з узнагародамі, а ўсім іншым удзельнікам конкурсу сардэчна дзякуем, асабліва вучням Бельскага беларускага ліцэя, якія прыслалі найбольш, ды самых лепшых прац.



*Эдвард Пшыбыльскі (пасярэдзіне) з Засцянак ужо чацверты год кантрактуе трускалкі. У гэтым годзе пасадзіў амаль гектар пры дапамозе спецыяльнай машыны.*

## АПЕТЫТ НА ТРУСКАЛКІ

На полі грукоча вялікі трактар. Арэ зямлю спецыяльным плугам, які называюць плуга-фрэзаркай.

— Гэта вельмі важна, — кажа прадстаўнік беластоцкай „Вітаміны“ Антон Юцэйка, — каб магчыма найлепш, найбольш старанна падрыхтаваць поле пад трускалкі. Паглядзіце, гэтая машына так раздрабляе зямлю, што ўжо не трэба яе баранаваць.

Стаім пад лесам, на ўзгорку, з якога быццам на далоні відаць вёска Засцянкі. Яе беспаваротна ўвабраў у свае нутро вялікі горад Беласток. Засцянкі аднак не паспелі яшчэ цалкам развітацца з вясковымі прывычкамі. Усё тут перамяшалася і пераблыталася. Гарадскія асабнякі, якія вырастаюць тут, як грыбы пасля дажджу, чаргуюцца з хатамі вясковага тыпу, а жыхары гэтага пасёлка, хаця ўжо гараджане, не пераcталі яшчэ быць сялянамі. Перш за ўсё вырошчваюць трускалкі і іншую агародніну. Валянцін Аксейчук, для прыкладу, разам з братам пасадзіў у гэтым годзе цэлы гектар трускалак. Эдвард Пшыбыльскі, таксама з Засцянак, рыхтуе амаль гектар поля пад трускалкі.



*У Засцянках вырошчваюць трускалкі.*

— Апетыт на трускалкі расце ў нас з кожным годам, — сцвярджае Юзэф Брушэўскі — намеснік старшыні Ваяводскага агароднінна-пчалаводчага кааператыва ў Беластоку. — Нашу, беластоцкую трускалку вельмі ахвотна купляюць і за мяжой, і ў краіне. Яна вызначаецца лепшай якасцю, чым трускалкі з іншых раёнаў Польшчы. Перш за ўсё наша трускалка больш трывалая і таму лепш пераносіць транспарт.

Беласточчына па вырошчванні трускалак знаходзіцца на **трэцім** месцы ў краіне. Пасля Любліна і Радамскага ваяводства. І таму летам, пад канец чэрвеня і ў пачатку ліпеня, вельмі часта на нашых дарогах у наваколлі Звяркоў, Паўлаў, Юхноўца і ў іншых раёнах Беласточчыны можна было сустрэць грузавікі з замежнай рэгістрацыяй.

— У рамках прыгранічнага тавараабмену, — гаворыць старшыня Брушэўскі, — у Гродна і Вільна адправілі мы ў

**(Працяг на стар. 4)**

## НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА

Для актывістаў ГП і праўлення гарадскога гуртка нашага таварыства ў Беластоку гэта былі дзве цудоўныя гадзіны прабывання ў свеце беларускай паэзіі і песні. Вершы пра красу беларускай зямлі, яе багатае мінулае, пра самыя запаветныя думы чалавечыя, што па-майстэрску чытаў іх аўтар, перапляталіся з беларускімі народнымі мелодыямі Беласточчыны аб растрывожанай каханнем дзявочай душы, аб хлапечай нястрымнай маладзецкасці ды нават загубіўшай дзеда злоснай бабе, якія спявалі ўдзельнікі сустрэчы разам з паэтам. Першапрычынай гэтай незвычайнай урачыстасці 27 кастрычніка г.г. быў госць з Беларускай ССР — беларускі паэт і літаратуразнаўца **Алег Антонавіч Лойка.**

У беластоцкім беларускім клубе на Варшаўскай 11 савецкага госця прывітаў старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** пазнаёміў жа сабраных з яго творчымі і навуковымі дасягненнямі кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта др **А. Баршчэўскі.**

А. А. Лойка паходзіць са Слоніма. Як сам ён кажа, там асталося яго дзяцінства, там перацвілі першыя каштаны яго маладосці, але і ў цяперашнюю творчую ды навуковую сталасць старажытны горад у часе частых наведванняў дорыць яму запладняючае натхненне. Ад часу паступлення на філалагічнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта амаль трыццаць год таму назад і па сённяшні дзень А. А. Лойка звязаны з творчым і навуковым асяроддзем сталіцы БССР. З 1956 г. ён — выкладчык беларускай літаратуры на сваёй „альма матэр“, тут падрыхтаваў доктарскую дысертацыю і тут атрымаў званне прафесара. Хоць у педагагічнай дзейнасці ён з'яўляецца спецыялістам па гісторыі беларускай літаратуры канца XIX і пачатку XX стагоддзяў, то аб'ектам яго навуковых даследаванняў з'яўляюцца ў роўнай ступені праблемы пабрацімства славянскіх літаратур (напрыклад, яго манаграфія „Адам Міцкевіч і беларуская літаратура“, 1959 г.), вядучыя постаці з беларускай літаратуры („Максім Багдановіч“, 1966) і цэнтральныя яе творы („Новая зямля“ Якуба Коласа“, 1961), як і праблемы развіцця сучаснай беларускай паэзіі („Сустрэчы з днём сённяшнім“, 1968). Цяпер жа ён працуе над другой часткай манаграфічнай працы „Беларуская літаратура канца XIX і пачатку XX стагоддзяў“.



А. А. Лойка належыць да так званай „філалагічнай школы“, якая ў сучаснай беларускай літаратуры групуе творцаў, што з уласцівай колішнім прадстаўнікам італьянскага Адраджэння XV — XVI стагоддзяў таленавітасцю і універсальнасцю, дораць нам глыбокія навуковыя даследаванні адначасова з чароўнымі паэтычнымі творамі. Упершыню А. А. Лойка выступіў у

**(Працяг на стар. 4)**




### ПРАЕКТ „ГОРАДА“ Ў КОСМАСЕ

Амерыканскія вучоныя лічаць, што праз некалькі дзесяцігоддзяў у космасе могуць узнікнуць „гарады“.

У даследчым цэнтры Эймс у Маўнцін-В'ю (штат Каліфорнія) ў атэлі Нацыянальнага ўпраўлення па аэранаўтыцы і даследаванню касмічнай прасторы ЗША (НАСА) адбыўся семінар, прысвечаны гэтай праблеме. На праведзенай у гэтай сувязі прэс-канферэнцыі спецыялісты расказалі аб праекце „касмічнай калоніі“ з дзесяццю тысячамі жыхароў.

З Зямлі запускаецца параўнаўча невялікая арбітальная станцыя. Яе адддаленне — прыкладна 330 тысяч кіламетраў. Такая вышыня выбрана ў сувязі з тым, што сіла прыцягнення Зямлі і Месяца ў гэтым поясе ўраўноўваецца. Жыхары станцыі пры дапамозе дастаўленага з Зямлі абсталявання пачнуць будаваць асноўны „дом“, які будзе мець форму кола дыяметрам звыш паўтара кіламетра. Матэрыял плануецца здабываць на Месяцы і дастаўляць у неапрацаваным выглядзе на „будаўнічую пляцоўку“. Тут з руды будзе выплаўляцца алюміній, прычым выплаўка яго ва ўмовах бязважкасці дасць магчымасць атрымаць метал значна большай чысціні і трываласці, чым на Зямлі.

У гатовым выглядзе „дом-горад“ будзе даволі камфартабельны. Акрамя жылых памяшканняў, тут будуць пляцоўкі для адпачынку і прагулак і нават палі для раслін. Станцыя будзе круціцца са скорасцю аднаго абароту ў мінуту, каб стварыць прывычную для чалавека сілу прыцягнення.

Галоўным заняткам жыхароў касмічнага горада, на думку вучоных, павінна стаць забеспячэнне Зямлі таннай энергіяй. Яны будуць будаваць і запускаць на каляземныя арбіты спадарожнікі-электрастанцыі. Пераўтвараючы сонечную энергію ў электрычную, спадарожнікі павінны перадаваць яе на зямныя прыёмныя станцыі пры дапамозе накіраваных электрамагнітных хваль.

### МІНІСТР УХВАЛЯЕ БРАКАНЬЕРСТВА

Ужо на працягу многіх гадоў ва ўсім свеце ідзе трывожная гаворка аб тым, як захаваць выміраючыя віды фауны. Сярод яе сучасных прадстаўнікоў маецца на ўвазе і марскі коцік, які даўно ўжо не жыве ў многіх вадаёмах планеты. Яго белае футра вельмі дарагое, карыстаецца вялікім попытам.

Зараз марскі коцік часцей трапляецца на ўсходнім узбярэжжы Канады, таму што кожнай вясной гэтыя маленькія жывёліны прыплываюць туды з іншых месц, каб нараджаць сваё патомства. Але можна не сумнявацца, што і тут коцікі хутка будуць зведзены. Выходзячы на бераг цэлымі табунамі, яны трапляюць у сілкі, іх сотнямі забіваюць з паляўнічых стрэльбаў, палкамі, жалезнымі трубкамі — хто чым можа.

У апошні час браканьерскае паляванне дасягнула масавых маштабаў. Асабліва лютуюць двухногія драпежнікі з правінцый Новая Фінляндыя і Новы Бруншвік, дзе забойства коцікаў ужо даўно ўвайшло ў традыцыю. Ды справа не толькі ў традыцыях. У мінулым годзе ўладамі было афіцыйна дазволена адстраляць 170 тысяч коцікаў. Прадстаўнікі грамадства звярнуліся да міністра рыбаводства і паляўнічых промыслаў з пратэстам. А ён, як ні ў чым не бывала, спакойна адказаў:

— Пратэст ваш не мае рацыі. Размова ідзе аб жыцці маленькіх звяркоў, толькі і ўсяго. А інтарэсы людзей куды важней.

І ніхто не можа пераканаць гэтага дзяржаўнага дзеяча ў тым, што захаванне жывёльнага свету на зямлі якраз у інтарэсах людзей.

### ЖЫХАРЫ ЎЦЯКАЮЦЬ

Нью-Йорк страціў за апошнія пяць год звыш 350 тысяч жыхароў — такі вынік дэмаграфічнага даследавання, якое праведзена спецыяльнай камісіяй па ўказанню муніцыпальных улад горада.

З дакументу відаць, што гараджане ўцякаюць з-за пагоршання ў Нью-Йорку эканамічных умоў, у прыватнасці рэзкага росту беспрацоўя. У даследаванні гаворыцца, што гэты працэс будзе працягвацца.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Адсвяткавалі вось мы 60 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Былі ўрачыстыя вечары, сустрэчы, мітынгі. Прывыклі мы да гэтага свята. Вялікі Кастрычнік жыве ў нашай свядомасці не толькі гістарычнай праўдай, ён таксама абрастае народнай легендай, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне.

Многія тысячы жыхароў Беласточчыны прымалі дзейсны ўдзел у змаганнях за абарону ўлады рабочых і сялян у Расіі. Вярнуўшыся на радзіму, прыводзілі яны свае ўспаміны, свае перажыванні, якімі дзяліліся з суседзямі і знаёмымі, са старымі і юнакамі, як хлебам і соллю ў час свята.

**Васіль Грыцюк** з Вулькі Нурэцкай так захапіўся ідэямі Кастрычніка, што на ўсё жыццё стаў ён камуністам. Найперш быў чырвонагвардзейцам, а пасля ваяваў на многіх франтах грамадзянскай вайны, быў асуджаны петлюраўцамі на расстрэл, і толькі шчаслівае супадзенне фактаў выратавала яго ад пакутніцкай смерці. У міжваенны час Васіль Грыцюк быў актыўным членам КПЗБ.

**Нестар Пытэль** часта паўтараў свой расказ пра Леніна. Гаваркі ён не быў. Часцей слухаў, чымсьці сам адзываўся. А калі ўжо іншыя ўдосталь нагаварыліся, дзядзька Нестар, найперш сплюнуўшы між нагамі ў вулічны пясок, адзываўся:

— Што ваш расказ?! Я Леніна бачыў, во!

Тут мы з недаверам глядзелі на гэтага плячыстага, высокага селяніна, а яго твар аж расцвітаў ад гонару і стрыманай радасці.

— Што, не верыце?! — гаварыў ён.

— Яй-богу! — біўся ён у грудзі. — Каб я з таго месца не ўстаў, калі гавару няпраўду! Ён нас на фронт адпраўляў пад Царыцын. Раз'ясняў нам, за што мы ваюем.

Пасля, калі я ўжо стаў журналістам, неаднойчы прапанаваў дзядзьку Нестару, каб запісаць яго расказ на магнітафонную плёнку. Ён аднак заўсёды мне адказваў:



## ВЕЧНА ЖЫВАЯ

— А навошта? Ці гэта такое важнае? Я ж просты чалавек, звычайны мужык...

І сапраўды, пражыў ён свой век ціха, але не зусім спакойна, бо розныя важныя падзеі, быццам наперакор яму, уцягвалі Нестара Пытэля ў свае руслы і ручайкі.

У мінулым годзе дзядзька Нестар памёр. Яшчэ раней, бо некалькі гадоў таму назад, памёр таксама Васіль Грыцюк. Непасрэдных сведкаў рэвалюцыйных падзей астаецца ў жывых усё менш і менш, бо іх зараз трэба шукаць сярод тых дзядуляў, якія пражылі на гэтым свеце не менш чымсьці 75 гадоў.

**Яна Міцюка** з вёскі Машчона Каралеўская, якая знаходзіцца між Сямяцічамі і Мельнікам, у 1917 годзе лёс загнаў у Днепрапятроўск, які ў той час называўся Екацярынаславам.

— Я працаваў там на заводзе, — расказвае ён сваім аднавяскоўцам, якія прыселі на траве ля плота, па-суседску з садам, дзе чырванелі спелыя яблыкі. Расказваў сваю гісторыю, бадай, ужо не першы раз, бо на вуснах яго слухачоў бачыў я ўсмешкі здагадак, што будзе далей... А дзядзька Іван гаварыў пра тое, як яны радасна сустрэлі вестку аб пралетарскай рэвалюцыі, як да іх на завод прыехалі матросы Чарнаморскага флоту і пачалі запісваць рабочых у чырвоныя прафсаюзы.

— А пасля нахлынулі белыя, — працягваў свой расказ Ян Міцюк. — Тады камуністы з нашага завода звярнуліся да рабочых, каб самі бараніліся. А зброя ў нас была, бо мы яе самі рабілі. І пачалося пекла. Памятаю, што аднойчы загінула 95 нашых рабочых, якіх мы ўрачыста, пад гукі Інтэрнацыянала пахавалі ў супольнай брацкай магіле...

Яго расказ пра рэвалюцыйныя змаганні ў Екацярынаслаўі будуць паўтараць унукі і праўнукі. І так каласіцца ў народзе гэтая вечна жывая легенда пра Кастрычніцкую рэвалюцыю.

**Віктар Рудчык**

## Наша галерэя



*Міхась Савіцкі. „Адзінадушша“.*




**Новае пра Леапольда Родзевіча • За хлеб і мяса • Музей пушчы ў Каменюках • Злучылі іх сэрцы • Ахрыплы голас Ірэны Баравік • Багацця нажыўся і ў магілу палажыўся • Чаромхаўская настаўніца • Калі сніцца, што ты п'яны • Весткі з Забалотчыны, Белавежы, Паўночнага Вострава, Дубяжына, Кляшчэляў, Дубіч Царкоўных, Варшавы, Бельска, Нараўкі, Трасцянкі, Чаромхі • Песня „Kukułeczka“ з рэпертуару Уршулі Сіпінскай.**




**Niedziela 13 XI** — 7.00 Tech. Rol. Upr. rośl. (8). 7.30 Hod. zwierz. 8.00 Nasze spotkania. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Niewolnicy i lordowie — serial dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Sport. 13.30 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 14 XI** — 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (32). 13.25 Fiz. (37). 15.25 NURT — nauki polit. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Sensacje z przyszłości. 17.00 Zwierzyniec. 18.05 Stawka większa niż życie — odc. XI. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV A. Suchowo-Kobylin „Sprawa”. 22.15 Camerata. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 15 XI** — 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (32). 7.00 Fiz. (27). 9.00 Dla kl. IV J. pol. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (9). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.45 Interstudio. 18.20 Jaśnie pan szofer — cz. II komedii pol. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Droga przez mękę — odc. III ser. ZSRR. 21.45 Świadkowie. 22.05 Muzyka i ekran. 22.45 Dziennik.

**Środa 16 XI** — 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (9). 10.00 Dla kl. V Złoty wiek Aten. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 RTV szk. śred. Hist. (8). 13.25 Biolog. (32). 15.25 NURT — nauczanie począt. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Przed ekranem. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Rodowody. 18.15 Koncert organowy op. 4 nr 5 Haendla. 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Człowiek wiatru — fab. film wł. 22.20 Dziennik. 22.35 Sport.

**Czwartek 17 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Hist. (8). 7.00 Fiz. (5). 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. VI Hist. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (8). 13.25 Fiz. (6). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Taaka ryba. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. A. Zakrzewski „Akcja szarotka” cz. I. 21.45 Pegaz. 22.30 Wolność Rosji — wolność Polsce — pr. oświat. 23.00 Dziennik.

**Piątek 18 XI** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (8). 7.00 Fiz. (5). 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VI Geogr. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (33). 13.25 Mech. rol. (27). 15.25 — NURT — ped. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotor. turysty. 17.40 Życie w mroku. 17.55 Historia pewnej kamienicy — odc. II ser. CSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Gwiazdy patrzą na nas — odc. V ser. ang. 21.30 Studio Gama. 22.50 Dziennik. 23.05 Studio Gama c.d. 23.55 Koszmar nocy letniej — fab. film ang.




**Piątek 11 XI** — 7.30 Film fab. 14.00 Film fab. 16.15 Film anim. 17.10 Koncert. 17.50 Film fab. 19.30 Pr. estrad.

**Sobota 12 XI** — 10.00 Koncert. 12.10 Film fab. 13.30 Nie do wiary. 14.55 Filmy anim. 17.00 Piosenka — 77. 17.40 Film fab. 19.30 Panorama film. 21.00 Sport.

**Niedziela 13 XI** — 12.00 Hokej. Dynamo (Moskwa) — Awtomobilist. 14.20 Panorama międzynar. 15.00 Klub film. 16.15 Film anim. 19.30 Koncert. 20.30 Sport.




**Białowierza** Anna i komandor — radz. 15—16. Wódz Prusów — radz. 17—18. Było nas czworo — radz. 19—20.

**Bielsk Podl.** Rebus — pol. 15—16. Jak Car Piotr Ibrahima swatał — radz. 17—18. Zdolny do wszystkiego — radz. 19—20.

**Czeremcha** Skok o świcie — radz. 15—16. Ostrożnie babciu — radz. 19—20.

**Czyże** Rzut karny — radz. Sombrero — radz. 16—20.

**Dubicze Cerkiewne** Witia, Masza i morska piechota — radz. Hełm Aleksandra Macedońskiego — radz. 16—20.

**Gródek** Śmiałość — radz. 19—20.

**Hajnówka** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 14—15. Ostatnie spotkanie — radz. 16—17. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 18—19. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz.-wł. 20.

**Michałowo** Chewzburska ballada — radz. 15—16. Nikt nie chciał umierać — radz. 17—18. Oficerowie — radz. 19—20.

**Mielnik** Pani Ambasador — radz. 16. Inna — pol. 19—20.

**Milejczyce** Polonez Ogińskiego — radz. 15—16. Opowieść o komuniście — radz. 17—18. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 19—20.

**Narew** Noce i dnie — pol. 16—20.

**Narewka** Kochałem cię — radz. Dziki pies Dingo — radz. 16—20.

**Nurzec** Poławiacze gąbek — radz. 15—16. Monolog — radz. 17—18. Cyrk w cyrku — radz.-czes. 19—20.

**Orla** Cudze listy — radz. 12 krzeseł — radz. 16—20.

**Rajsk** Czerwone ciernie — pol. Matczyne serce — radz. 16—20.

B.Z.Graf. Zam. nr 2591 B-4



## Заселенае скульптурамі мястэчка

Калі так пойдзе далей, Ліпск у Сувальскім ваяводстве праз некалькі год увесь спрытна будзе застаўлены арыгінальнымі драўлянымі скульптурамі і стане месцам паломніцтва тысяч турыстаў не толькі з усяе нашай краіны. Гэтае маленькае мястэчка, закінутае на невялікі пагорак над топельнымі багнамі ў вытоках ракі Бебжы, як не дзіўна, але мае ўсе падставы стаць слаўным на ўсю краіну сталым апекуном маладых разбяроў і ператварыцца ў аграмадны музей іх прац.

Пачатак гэтай незвычайнай ініцыятыве далі Таварыства прыяцеляў Ліпска і тамашняе гміннае ўпраўленне, аб'явіўшы ў 1975 годзе першы Агульнапольскі пленер маладых разбяроў. Арганізатары забяспечвалі дзесяці маладым талентам разца дах над галавой, кругласутачнае ўтрыманне ды адмысловы матэрыял для разьбы. За гэтую гасціну ўдзельнікі пленеру абавязаны ахвяраваць Ліпску адну сваю скульптуру. Як і трэба было спадзявацца, сярод першых маладых разбяроў найбольш было вучняў супрасльскага мастацкага ліцэя. У выніку дзесяць арыгінальных скульптур на стала пасялілася сярод ружаў на скверыку ў цэнтры мястэчка. Праз год з-пад разцоў навучэнцаў мастацкіх ліцэяў з Закапанага, Замосця, Кельцаў і Супраслі выйшаў наступны дзесятак постацей, што сталі на пляцы каля скрыжавання галоўных дарог у Ліпску. Дзесяць прац, якія пакінулі ўдзельнікі сёлетняга пленеру маладых скульптараў з розных куткоў Польшчы, рассяліся па ўсяму мястэчку: у агародчыках, на скрыжаваннях, на школьным скверыку, каля басейна і г.д. І так мае быць кожны год.

І ўсе скульптуры адразу сталі адметнай, але неад'емнай часткай пейзажу гэтай ціхай і ўтульнай мясціны.

**І. Снарскі**

Фота аўтара





**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ**

## Шкодніцкая магія

**(заканчэнне)**

Шкодніцкая магія, а ўласна кажучы яе спосабы наношвання няшчасцяў, так. як, зрэшты, і ў іншых відах народнага веравання і абраднасці, былі падатныя на ўсялякага роду ўплывы, запазычанні і змены. Часта было так, што многія славесныя магічныя формулы цалкавіта занікалі, уступаючы месца новым, больш таямнічым і незразумелым. Загадкавасць у шкодніцкай магіі шматлікіх формул і багацце „сцэнерыі" цесна звязана з жывучасцю многіх магічных працэдур. Трэба аднак адначасова дадаць, што цывілізацыйныя змены, змены ў спосабе мышлення, заціранне традыцыйнага ўзору вёскі давялі да паступовага выключэння з чалавечай свядомасці веры ў злую сілу. Пахіснуліся прапорцыі паміж бытуючым дзвюма супярэчнымі сіламі — Дабром і Злом, ствараючымі своеасаблівы космас, у цэнтры якога знаходзіцца чалавек і яго жыццё, а гэта вырашыла аб заніканні многіх надта ж цікавых абраднасцей, а перш за ўсё цікавячых нас сёння магічных формул, якія найлепш адлюстроўваюць вобраз чалавека.

Неабходна таксама адзначыць і тое, што шкодніцкая магія часта пранікала ў другія фальклорныя жанры. Доказам гэтага з'яўляюцца перш за ўсё народныя казкі. Казка часта ўключае ў сябе цэлыя магічныя формулы. А здараецца і так, што цэласцю яна пабудавана на магічнай аснове. Вось хаця б казкі пра ведзьмароў. Аб тым, што ўзнікалі яны на аснове магіі і былі ў адносінах да яе з'явай пазнейшай, сведчыць факт параўноўвання, прыкладна, рыс ведзьмы з казкі з ведзьмай, канкрэтна бытуючай у даным рэгіёне. У выніку гэтага параўноўвання назіраецца выразная супольнасць іх рыс. Кожная казка будзе адлюстроўваць вобраз ведзьмы з таго рэгіёна, у якім яна бытуе. Пераважна асобы выконваючыя, або цесна звязаныя са шкодніцкай магіяй, прыбіраюць нейкую канкрэтную постаць. Найчасцей ведзьму спалучаюць з жабай. Па сённяшні дзень бытуе на Беласточчыне перакананне, што хопіць, калі ў вёсцы ёсць западозраная ў вядзьмарстве асоба, дастаткова пакалечыць жабу, а ў той час адначасова будзе пакалечана і гэтая ведзьма. Гэта адзін са спосабаў выкрыцця людзей, западозраных у шкодна-магічным практыкаванні.

Пры выконванні магічных дзеянняў істотнае значэнне мае час. Згодна з робленымі намі запісамі і праведзенымі з жыхарамі Беласточчыны размовамі, найбольш адпаведным, бо калі ведзьма мае найбольшую магічную сілу, ёсць месяц чэрвень, але толькі да святога Яна, бо Ян хрысціць ваду і выганяе з прыроды ўсе злыя сілы. Згодна з гэтым, ведзьма таксама траціць сваю моц. І тут выразна відаць супрацьдзеянне дзвюх сіл — Дабра, якім з'яўляецца хрысціянская рэлігія, і Зла, якое выплывае ад чорта. Калі пры „часе", дык трэба сказаць, што таксама не ўсе дні ў тыдні з'яўляюцца „спрыяльнымі" ў ажыццяўленні шкодніцка-магічных дзеянняў. Утрымоўваецца перакананне, што найбольш „спрыяльнымі" днямі з'яўляюцца: пятніца, субота і панядзелак. І тут цікавая з'ява. Чаму менавіта панядзелак, які выступае зараз жа пасля нядзелі, якая з'яўляецца днём ачышчэння душы? Хіба што для ведзьмароў нядзеля з'яўляецца днём сатанічных маленняў да злых сіл.

Падсумоўваючы шкодніцкую магію, неабходна сказаць і аб тым, што часта носьбітамі злых сіл былі некаторыя звяры, а пераважна гады і розныя паўзуны. Падтрымкай сказанага з'яўляецца бытуючая ў народных пераказах легенда, звязаная яшчэ з часамі стварэння света. Бог, каб ачысціць Зямлю ад Зла, сабраў у мяшок усё поўзаючае плюгаўства і даў буслу, каб той яго вынес. Бусел аднак з-за няўвагі ўпусціў мяшок, і ўсё яно зноў параспаўзалася па зямлі. За гэта быў ён пакараны і па сённяшні дзень ходзіць і збірае яго, ачышчаючы зямлю ад зла. У іншай версіі гэтай легенды гаворыцца, што бог адаў гэты мяшок не буслу, а чалавеку і толькі пасля замяніў яго ў бусла, каб усё гэтае пазбіраў.

Паасобныя з гадаў з'яўляюцца таксама дапаможнікамі ў наношванні зла. І так, калі кінуць у твар цяжарнай жанчыны жабу, вужаку, яшчарку ці нават мыш, дык абавязкова нованароджанае дзіця будзе мець у тым месцы след, напамінаючы выглядам істоту, якую кідалі. Трэба дадаць, што апрача абкідвання, цяжарная жанчына была надта падатная на страх. Адгэтуль і бяруцца: крывавы след далоні на целе дзіцяці, які паяўляецца тады, калі перапалоханая пажарам жанчына схопіцца рукою за галаву, ці нейкія іншыя сляды як вынікі сутыкнення з брыдкім чалавекам. Таму найчасцей старалася яна ўглядацца толькі на людзей прыгожых і маліцца толькі перад прыгожымі іконамі.

Канчаючы цыкл шкодніцкай магіі, трэба адзначыць, што не з'яўляецца ён вычарпальным. Засталіся, несумненна, справы ўвогуле некранутыя. Прыкладна, пракраданне шкодніцкай магіі ў рэлігію і выкарыстоўванне да свайго дзеяння святых месц і рэчаў. Вось хаця б абрываннем ведзьмарамі фрэндзляў з царкоўных харонгваў, ці ламанне свечак перад іконамі святых. Стараліся мы аднак паказаць самае галоўнае і найбольш істотнае. Астатняе прапушчана з той думкай, каб у далейшым не паўтарацца, таму што выплыве яно пры апісванні другіх відаў народнай абраднасці і веравання, а перш за ўсё пры лячэнні, якое з'яўляецца быццам бы супярэчнасцю шкодніцкай магіі і аб якім пачнем гаварыць ад наступнага разу.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

**Беларусіяна**

## „Літаратурны Беласток"

Пад такім загалоўкам быў змешчаны ў чацвертым нумары бягучагодняга ольштынскага культурнага штомесячніка „Вармія і Мазуры" артыкул Сакрата Яновіча. Аўтар, ступаючы па храналагічных сходах паасобных падзей, стараецца як мага верна перадаць, з яго агрэхамі і прыгожа рунеючымі пасевамі, панараму беластоцкага літаратурнага жыцця. Пачынаючы ад другой паловы пяцідзесятых гадоў, затрымоўваючыся і ўмеру шырэй характарызуючы літаратурныя групы — „Белавежа", ККМП, „Бакалаўр" ды пералічваючы галоўныя плады іх літаратурнай дзейнасці, вядзе вельмі дакладны нарыс аж да нашых дзён. Каб паказаць літаратурнае ўзрастанне Беластока, змяшчае яго на фоне агульнадзяржаўнай літаратурнай дзейнасці. Пры гэтым, агульным зместам свайго артыкула сігналізуе праблему тармажэння літаратурнага развіцця, на якое паказвае безупынны недахоп магчымасцей заснавання аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў. Не абазначае гэта аднак недахопу літаратурных талентаў. Праблема ў іх вылятанні пасля развіцця крыл.

Раскрываючы панараму беластоцкага літаратурнага жыцця, выразна паказвае на вялікія заслугі „Нівы" і Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое з'яўляецца выдаўцом альманаха „Рунь" — першай літаратурнай кніжкі на пасляваеннай Беласточчыне. Шмат месца адводзіць ён таксама Беларускаму літаратурна-мастацкаму аб'яднанню „Белавежа" як найстарэйшай і найбольш дынамічнай групе, якая зараз мае за сабой вялікі творчы плён у форме змешчваемых штомесячна ў „Ніве" літаратурных старонак і шматлікіх кніжных выданняў. Рэканструюючы шлях літаратурнай дзейнасці, паказвае на неабходнасць падтрымкі яе для далейшага пашырэння. А матэрыял дзеля гэтага ёсць, прыкладам чаго з'яўляецца заснаванне ў другой палове лістапада мінулага года літаратурнага клуба, які налічвае звыш дваццаці двух членаў, выводзячыхся з трох раней адзначаных літаратурных аб'яднанняў.

Яшчэ раз да тэмы беластоцкага літаратурнага жыцця вярнуўся Ян Чыквін, змяшчаючы ў дзевятым, за бягучы год, нумары таго ж штомесячніка эсэ „Літаратурны рэманент", у якім глядзіць на літаратурную дзейнасць Беластока праз прызму арганізаванай літаратурным клубам у маі бягучага года навукова-папулярнай сесіі — „Беласточчына ў мастацкай літаратуры". Даючы характарыстыку яе развіцця, спасылаецца на гістарычныя творчыя традыцыі. Яго эсэ часткова з'яўляецца адказам на пытанні, вынікаючыя з артыкула Сакрата Яновіча. Прабуе часткова адкрыць, прыкрытую агульным недасказваннем, прычыну тармажэння ў літаратурным руху, а асабліва калі гутарка ідзе пра дзейнасць літаратурнага клуба. Адначасова дае агульны вобраз літаратурнай творчасці як цэласці.

**М. Шаховіч**

**Чытайце і распаўсюджвайце „Ніву"!**

## Хроніка

■ 23 кастрычніка ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбылася цікавая вечарына, прысвечаная 60 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З дакладам на гэтую тэму выступіў лектар Станіслаў Вуйцік. На гэты вечар была падрыхтавана багатая мастацкая частка. На сцэне выступіў мясцовы харавы калектыў „Каласкі", а драматычны калектыў паставіў дзве п'есы: „Бацькоўскае благаслаўленне" і „Мараль Наталлі Зотавай".

■ Нашыя літаратары Сакрат Яновіч і Янка Чыквін 25, 26 і 27 кастрычніка правялі 12 аўтарскіх сустрэч. І так, 25 кастрычніка яны з працаўніком ГП БГКТ Надзеяй Панасюк правялі сустрэчу ў школе ў Нарве, вечарам жа Сакрат Яновіч — у клубе ў Клейніках, а Янка Чыквін — у клубе ў Чыжах. Назаўтра Янка Чыквін чытаў свае творы ў школе ў Чыжах, а Сакрат Яновіч у клубе ў Збучы. 27 кастрычніка гэтыя літаратары выступалі разам у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, а затым Янка Чыквін наведаў Арэшкава і правёў дзве сустрэчы ў школе і клубе, а Сакрат Яновіч у клубах у Дубічах Царкоўных і Старым Корніне. **(мх)**

## Многа дапамагае

Калі пісаць аб працы кіраўнічкі цэнтра „Сучасная гаспадыня" ў Гарадку — Барбары Бялені, то пахвальна. Нямала гадоў выконвае яна гэтую нялёгкую функцыю ў сваім асяроддзі. Цэнтр не мае адпаведных умоў, бо займае ўсяго невялічкае памяшканне, у якім дастаткова месца толькі на кухонны посуд і камплекты сталовых прыбораў. Таму ўсе курсы і розныя паказы вядзе яна ў школе, кавярні, клубе. Вельмі добра, што з дапамогай прыходзяць ёй мясцовыя ўстановы і арганізацыі: спулдзельчы банк, спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў і гурткі вясковых гаспадынь.

У гэтым годзе гарадоцкі цэнтр „Сучасная гаспадыня" арганізаваў кулінарныя курсы і паказы, вясковыя дзяцінцы на час жніва, вечар паэзіі і аўтарскую сустрэчу з А. Амільяновічам, культурныя мерапрыемствы з нагод: Дня жанчын, Дня маці, шматлікія конкурсы і г.д.

Гэтая арганізацыя ў Гарадку многа дапамагае вясковым жанчынам.

**(ця)**

(Працяг са стар. 1)

# НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА

друку са сваімі вершамі звыш чвэрць стагоддзя таму назад і з таго часу ўзбагаціў беларускую паэзію шматлікімі зборнікамі вершаў і паэм, між іншым, „На юначым шляху“ (1959), „Дзівасіл“ (1969) і шэрагам іншых. Неўзабаве выйдзе з друку новы том яго паэзіі „Лінія жыцця“. Яго паэзіі ўласцівы глыбокі роздум над сучаснасцю чалавечнасці, разважанні над гісторыяй беларускай культуры і нейкае асаблівае, гуманістычнае захапленне сённяшнім днём. Не мала красачных цацак падарыў паэт і дзеткам-малалеткам, між іншым, зборнікі вершаў „Як Тоня рэха шукала“ (1962), „Блакітнае азерца“ (1965), хутка з друку выйдзе новая кніжка для дзяцей „Дзе хто начуе?“.

Багата ў А. А. Лойкі і яго кайстра перакладаў, між іншым, збеларушчыў ён шэраг твораў рускіх, балгарскіх і французскіх паэтаў, пераклаў многа польскай паэзіі, асабліва цікавіцца творчымі набыткамі сучасных польскіх паэтаў. Неабходна напомніць, што за даследаванне беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей і папулярызацыю польскай літаратуры ў Беларусі наш урад узнагародзіў яго медалем за заслугі для польскай культуры.

У Беларускім універсітэце А. А. Лойка апякуецца гуртком маладых паэтаў, і, дзякуючы яго дбайнасці пра маладыя таленты, гэтае згуртаванне стала сапраўдным гадавальнікам маладой беларускай паэзіі ў БССР.

У другой палавіне кастрычніка г.г. на працягу двух тыдняў прабываў А. А. Лойка ў Польшчы. На кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта выступіў з цыклам лекцый па гісторыі беларускай літаратуры, збіраў матэрыял да сваіх новых навуковых публікацый. Але сярод мноства заняткаў, якімі быў запоўнены ўвесь час яго побыту ў Варшаве, ён усё ж патрапіў вылучыць адзін цэлы дзень, каб прыбыць на Беласточчыну, пабываць у ГП БГКТ і рэдакцыі „Нівы“, правесці аўтарскую сустрэчу з настаўнікамі і моладдзю Бельскага беларускага ліцэя, паездзіць па Гайнаўшчыне і сустрэцца з актывам БГКТ у Беластоку. Пакінуў ён сярод нас незабыўныя ўражанні як выдатны сучасны беларускі паэт, глыбокі знаўца гісторыі культуры беларускага народу, абаяльны чалавек і... адароны выканаўца беларускіх народных песень! І за гэтыя перажытыя разам з ім цудоўныя часіны ад усіх нас вялікае яму дзякуй.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ПЕРАСТАРАЎСЯ

Аўтобусы ПКС, якія ездзяць з Беластока ў Гайнаўку праз Жэдню, у апошні час часта спазняюцца. 21 верасня гэтага года аўтобус рушыў у дарогу а гадз. 9[45]. 11 кастрычніка гэты ранішні аўтобус паехаў з 45-мінутным спазненнем. Дзяжурны руху тлумачыць тым, што шафёры яшчэ не вярнуліся з трасы і рэдка калі даюць на яго месца другі самаход. Напрыклад, 10 кастрычніка не знайшоўся такі аўтобус.

11 кастрычніка паехаў я аўтобусам у Ляўкова. Назад меўся вяртацца ім а гадз. 16[18] ды не паспеў на яго, так як і шмат іншых кандыдатаў на пасажыраў. Была яшчэ толькі роўна гадз. 16[00], а аўтобус віхрам памчаўся ў Беласток. Паехаў тады я аўтобусам, што едзе ў Міхалова і там яго шафёр начуе. Заехаў а гадз. 17[45] і чакаў аўтобуса з Ялоўкі ў Беласток. Чакаў, але так і не дачакаўся. Яго ў той дзень наогул не было. Прыйшлося доўга-доўга чакаць. Апошнім аўтобусам ПКС з Міхалова даехаў я і са мною мае „сябры па нядолі“ пунктуальна. У Беластоку былі мы а гадз. 22[24]. Усё з-за такой сабе дробязі — шафёр перастараўся. Відаць, хацеў даказаць, што патрапіць выехаць з больш чым паўгадзінным спазненнем і вярнуцца куды раней чымсці павінен. І за гэта яму наша „пахвала“.

**Іван Непаседа**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Хлопцы са „Старта“

Беластоцкі спартыўны клуб Польскага саюза глухіх адзначае ў гэтым годзе 20-годдзе сваёй спартыўнай дзейнасці. У 1973 годзе ў клубе была створана секцыя футбола. Глухія хлопцы прадстаўляюць спартыўнае аб'яднанне „Старт“ — Беласток. Іх адданым усім сэрцам трэнерам з'яўляецца Вацлаў Рынгелевіч, які адначасова трэніруе ўжо 2 гады футбольную каманду глухіх Польшчы. Кіраўніком футбольнай беластоцкай секцыі з'яўляецца заслужаны дзеяч інвалідскага спорту Юзэф Шыпульскі.

Найбольшыя дасягненні беластоцкая секцыя футбола глухіх здабыла за апошнія 2 гады. Хлопцы выступаюць у І лізе Польскага саюза глухіх, у розыгрышы за 1976/77 г. сталі віцэ-чэмпіёнам Польшчы. А за год 1977/78 пасля першай рунды займаюць І месца.

Дзевяць футбалістаў са „Старта“ ў 1976 годзе ў Беластоку прымала ўдзел у элімінацыях да сусветных розыгрышаў глухіх, якія адбыліся ў Бухарэсце ў 1977 годзе. Польшча заняла там II месца пасля Чэхаславакіі.

Хлопцы футбольнай секцыі глухіх Беластока прымалі ўдзел у турнірах. У маі ў Супраслі занялі І месца. У Палерма ў Італіі выступала 5 калектываў, і Беласток там заняў II месца. Таксама добра павялося хлопцам у Берліне — І месца і ў Ліпску — І месца. У турнірах вылучыліся Януш Мудзь, Павел Гайдоўскі, Роберт Шыманскі, Сцяпан Завістоўскі. У апошні час адбыўся футбольны турнір у Супраслі — з выпадку 20-годдзя дзейнасці клуба. Выступілі 4 каманды: Будапешт (Венгрыя), „Старт“ — Беласток, ПЗГ — Варшава, МКС ПЗГ — Гданьск. Беластачане занялі другое месца, праігрываючы з Будапештам 0:1. Беластачане выступілі ў складзе: Веслаў Нэймановіч (варатар), Чэслаў Галянд, Уладзіслаў Сабалеўскі, Ян Галіцкі, Станіслаў Канопка, Кшыштаф Дадас, Ян Расолэк, Роберт Шыманскі, Павел Гайдоўскі, Тадэуш Малиноўскі, Юзэф Шацілоўскі; запасныя: Юрка Сэрафінскі, Веслаў Дзенісевіч, Тамаш Мудзь.

**(гай)**



*Футбалісты „Старта“ з трэнерам Вацлавам Рынгелевічам.*

# АПЕТЫТ НА ТРУСКАЛКІ

(Працяг са стар. 1)

гэтым годзе звыш 400 тон трускалак. Нашыя трускалкі з апетытам елі таксама жыхары некаторых краін Заходняй Еўропы.

У даліне, на полі Эдварда Пшыбыльскага, трактар з плуга-фрэзаркай канчае сваю справу. На ўзгорку пад лесам трактарыст з „Вітаміны“ Лешак Прус рыхтуе да працы іншую адмысловую машыну, якая патрапіць садзіць трускалкі. І робіць гэта вельмі проста, роўнымі радамі ды шмат хутчэй ад найспрытнейшага чалавека. Машыну прыдумалі амерыканскія канструктары, а купілі мы яе ад галандцаў.

Антон Юцэйка — намеснік загадчыка аддзела па справах прадукцыі беластоцкай „Вітаміны“, які наглядае за працай гэтай машыны, кажа мне, што на заходніх рынках каштуе яна стольКі, колькі парадачны аўтамабіль, а старшыня Брушэўскі з гонарам адзначае:

— Пакуль што толькі дзве такія машыны знаходзяцца ў нашай краіне. Адна — вось гэтая — у нас, а другая — у Дзяржаўным інстытуце агародніцтва і садаводства ў Скерняўіцах.

З выгляду машына вельмі простая. Садзіць не толькі трускалкі, але і капусту, і сэлеры, ды ўсё іншае. што можна садзіць. Для яе абслугі трэба, на жаль, аж 6 чалавек. Аднаго за рулём трактара, аднаго для нарыхтоўкі саджанцаў і 4 асобы для падачы гэтых саджанцаў у спецыяльныя пальцы апарата, які замацоўвае расаду ў зямлі.

Антон Юцэйка паясняе:

— Для пасадкі аднаго гектара трускалак трэба 40 тысяч саджанцаў. З практыкі вядома, што каб з гэтай працай справіцца ўручную, чатыры асобы павінны працаваць не менш чым два тыдні. Калі мы першы раз выпрабавалі гэтую машыну на полі Валянціна Аксейчука, дык гектар поля садзілі 7 гадзін.

Трактарыст Прус заяўляе, што машына гатова да працы. Можна распачаць пасадку. Аднак няма гаспадара. Ён паехаў за рабочымі і яшчэ не вярнуўся.

Так, цяжка знайсці цяпер людзей да працы ў полі.

— Летам, — гаворыць старшыня Брушэўскі, — прабавалі мы арганізаваць маладзёжныя гуфцы працы для збору трускалак у прыватных плантатараў. Ахвотных было вельмі мала, а большасць сярод гэтых дзяўчат і юнакоў, якія згадзіліся працаваць, пасля першага ўжо дня паўцякалі з поля. А нам, — адзначае старшыня Брушэўскі, — кожны год трэба садзіць не менш як 400 га трускалак, бо гэтая ягада нядоўтавечная і праз чатыры гады патрабуе аднаўлення. Тым часам нашыя планы прадбачваюць, што ў 1980 годзе ў Беластоцкім ваяводстве мае быць **дзесяць тысяч тон** гэтай салодкай ягады. Дзеля гэтага трэба нам 1800 га трускалак.

Апетыт на трускалкі павялічыцца яшчэ болей, калі праз год распачне працу сямяціцкі камбінат „Гортэкс“. Ён будзе патрабаваць **паўтары тысячы** тон трускалак.

Так, каб задаволіць нарастаючы апетыт на трускалкі, неабходна механізаваць усё, што толькі можна. І так яшчэ астанецца вельмі многа працы для чалавечых рук.

**В. Рудчык**
Фота аўтара

## Разведка гаспадарнасці

### КАЛІ ЗАКОНЧЫЦЦА ПАБУДОВА?

Прасторную святліцу пабудавалі ў сваёй вёсцы жыхары Войнаўкі (гміна Дубічы Царкоўныя) ў 1975 годзе. (Пісалі мы пра яе ў „Ніве“ ад 24 жніўня 1975 года). Войнаўцы многа папрацавалі пры ёй грамадскім чынам. Нават сваіх грошай унеслі 30 тысяч злотых. Асталося яшчэ зрабіць шалёўку, пабудаваць падлогу ў адной зале ды аббіць у сярэдзіне фетравай плітой. У гэтым мелі дапамагчы гмінныя ўлады. І дапамагаюць. Сёлета ледзь паспелі пабудаваць печкі. Мабыць, у будучым годзе зробяць (або і не) шалёўку, праз год яшчэ падлогу і ў канцы бягучай пяцігодкі пэўна прыйдуць майстры і абаб'юць у сярэдзіне сцены плітой. Ну і яшчэ не ўсё, бо прыдзецца ўставіць некалькі шыбаў. За час, калі святліца пустуе, выбілі іх дзеці.

А можа гэта толькі нашы меркаванні наконт гэтага?

Чакаем адказу дубіцкіх гмінных улад.

**Іван Непаседа**




*Кляшчэлеўскі СКР пачаў уводзіць новыя метады ў сельскай гаспадарцы.*

*На ўрочышчы „Моньчынэ“ быў у гэтым годзе пасеяны ячмень. І дзіва! Замест збожжа вырасла велізарная лебяда, у якой зусім схаваўся ячмень. Цікава, ці ў наступным годзе таксама будуць кляшчэлеўскія СКР-аўцы ўводзіць гэтую навіну?*

**(к-ус)**

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА VI

Прыродаапісальны матыў выступае ў многіх імпрэсіях. Прырода амаль заўсёды паказана ў гарманічным сужыцці з чалавекам. Па сутнасці можам гаварыць аб сентыментальнай трактоўцы прыроды. Пісьменнік заўсёды апісвае лагодныя станы пейзажу. Паказвае ён пазітыўны ўплыў прыродных з'яў на чалавека. Паводле Бядулі, прырода можа заразіць чалавека не толькі сваім настроем, але таксама яна можа выклікаць у чалавека сталыя змены. Прырода можа рабіць чалавека больш чулым, эмацыянальным і высакародным. Характэрнай рысай лірычнай прозы Бядулі з'яўляюцца непасрэдныя звароты пісьменніка да мёртвай і жывой прыроды як да разумнай істоты. Бядуля вядзе з прыроднымі з'явамі непасрэдную размову, трактуючы іх як партнёра сваіх роздумаў. Характэрны ў гэтым сэнсе пачатак імпрэсіі „Не шумі...“. Пачынаецца ён словамі: „Не шумі, човен, на якару, не пужай качак маладзенькіх, не псуй кветак белых з маленькімі гладышыкамі, з зялёнымі каптурыкамі...“.

Амаль заўсёды адчуваюцца выключна эмацыянальныя, пяшчотныя адносіны пісьменніка да зямной прыроды. Захапляе яна аўтара сваім выглядам, каляровасцю, сваім гукавым, музычным аспектам і ўрэшце сваёй унутранай „разумнасцю“ і „дабратой“. Як і ў „Казках жыцця“ або ў „Сымоне-Музыку“ Якуба Коласа, так і ў імпрэсіях Бядулі праяўляецца пантэістычны культ прыроды. Для гэтых пісьменнікаў прырода жыве самастойным, але абсалютна не варожым чалавеку жыццём. Па сутнасці і Колас і Бядуля, апісваючы прыроду, апелююць да людзей. Хочуць звярнуць увагу чалавека на наваколле, хочуць яго расчуліць, разбудзіць эстэтычна і эмацыянальна, імкнуцца інспіраваць зараджэнне прыязных, гарманійных адносін паміж чалавекам і прыродай. Няма сумненняў у тым, што ў імпрэсіях Бядулі маем дачыненне з аднабаковым, ідэалізаваным малюнкам прыроды. Пісьменнік звяртаецца амаль выключна да яе лагодных, „дабрачынных“ праяў. Аднак у творы „Без споведзі“, які, зрэшты, не належыць да імпрэсіі, а ўплатную падыходзіць да фабулярнага апавядання, Бядуля як бы насуперак самому сабе паказаў стыхійную і варожую чалавеку сілу прыроды. Твор „Без споведзі“ сваёй стылістыкай і тэматыкай выламваецца з настрою імпрэсій.

Амаль усе імпрэсіі Бядулі былі доказам маладосці аўтара. З'явіліся яны вынікам наіўнай, але добрай філасофіі юнака, закаханага ў свет людзей, раслін, птушак, у сферу зямной і надземнай прыроды. У імпрэсіях Бядулі знаходзім пэўную аналогію з ранняй паэзіяй Ясеніна. Захапленне колерам, любоў да роднай зямлі, культ святла, учалавечванне прыродных з'яў — усё гэта характэрнае і для маладога Ясеніна і для Бядулі. Зразумела, што сказанае не азначае свядомага наследавання. Аўтары гэтыя ішлі абсалютна самастойнымі дарогамі.

Імпрэсіі Бядулі сталі доказам таго, што ў яго ранняй творчасці дамінуе пачуццёвасць над рацыяналізмам, эмоцыя над розумам. І таму ў імпрэсіях не знойдзем багаты матэрыял, ілюструючы тагачасную грамадскую рэчаіснасць, або тыповыя для тых часоў чалавечыя характары і постаці. Бядуля сваімі раннімі творамі ілюструе не столькі свет, колькі самога сябе. І таму імпрэсіі — гэта цікавыя аўтахарактарыстыкі, вартасныя фатаграфіі настрояў пісьменніка.

„Абразкі“ сведчылі аб тым, што прыйшоў у беларускую літаратуру пісьменнік, які хоча глядзець на свет вачыма душы. А чалавек такі заўсёды павінен быць жаданым госцем.

**Elżbieta Starostecka**



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

Заказвала
Валянціна Касцючук з Клейнік.




Дарагое Сэрцайка! Пішу да цябе, каб ты мне параіла, як паступіць з падрастаючай дачкой. Яна была дзяўчына добрая, паслухмяная. Памагала мне выхоўваць траіх меншых дзяцей, бо яна ў нас найстарэйшая. У школе таксама клопатаў з ёю не было, адно хвалілі яе настаўнікі. Цяпер ёй 17 год. І ўжо яна хлопцамі цікавіцца. Хадзіла з хлопцам са сваёй школы. Але ўжо, бачу, іншы пачаў прыходзіць. За яе старэйшы, з войска вясной вярнуўся. Часамі і доўга вечарам заседжваецца. Калі гэта былі канікулы, дык я там спецыяльна і не ўмешвалася — сядзіш, сядзі. Але цяпер жа вучыцца трэба. Я маўчала цярпліва, але аднойчы знервавалася і пры гэтым жа хлопцу сказала, што яна яшчэ замаладая, каб хлопцамі займацца, і трэба з гэтым скончыць. Хлопец пасля гэтага не стаў прыходзіць. Дачка змянілася, проста не тая стала: задуменная, маўклівая, нейкая нервовая. Мала таго, то ўжо пачала вечарамі выходзіць, нібыта да сяброўак. Але я падазраваю, што яна мусіць на спатканні бегае. Я вельмі непакоюся, начамі спаць не магу. Баюся, каб дзе глупства не зрабіла. Сэрцайка, парай, як выбіць ёй з галавы гэтых хлопцаў.

Вера з Бельшчыны

Гэта зусім звычайна, што 17-гадовая дзяўчына цікавіцца хлопцамі. Ну, а ты, як кожная маці, баішся за сваю дачку. Маці, адпаведна паступаючы, можа ў многім памагчы дачцы пазбегнуць памылак маладога веку. Але не такім спосабам, як зрабіла гэта ты, скандалячы пры хлопцу. Ты, можна сказаць, прагнала хлопца, але не падумала, што пачуццяў іхніх гэтым не парвеш. І, бадай, яны знашлі сабе месца спатканняў па-за домам, а гэта ўжо намнога больш небяспечна. З дачкой ты павінна пагаварыць спакойна, без нерваў, перасцерагчы яе, павучыць. Яна павінна адчуць сваім маладым сэрцам тваю шчырую матчыну раду, убачыць у табе сапраўднага прыяцеля, які яе разумее, які ў кожны момант паможа ёй і перад якім яна не павінна мець таямніц.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Вельмі часта сніцца мне, што збіраю я ў лесе грыбы. Не скажу, каб я аж так ужо прападала за гэтым заняткам, але вось сніцца і ўсё. І вось нядаўна, хаця грыбны сезон ужо мінуў, прысніўся мне такі сон. Быццам я ў лесе, у лесе асеннім — ні зелені, ні моху. Шэра... І раптам бачу: на шэрай зямлі, на пяску можна сказаць, паяўляюцца цудоўныя праўдзіўкі: здаровенькія баравічкі, а ўсе з карычневымі капялюшыкамі. Я гляджу, а іх робіцца ўсё больш і больш, тады я прагна пачынаю збіраць іх. Хапаю прыгаршнямі. На гэтым прачнулася. Што можа абазначаць гэты сон?

Вера з Бельска

**Вера,** калі ты ўважліва сочыш за маёй рубрыкай, дык павінна была заўважыць, як я ўжо раней пісаў, што грыбы абазначаюць поспех у каханні. Тое, што табе яны часта сняцца, абазначае, што ты дзяўчына (ці мо жанчына?) з тэмпераментам і ў справах кахання табе шанцуе. Аднак, скажы мне, ці тваё жыццё ў апошні час не стала шэрае і аднастайнае? Бо выглядае на тое, што быў у цябе такі момант.

У тваім сне, аднак, на фоне шэрай зямлі, на пяску, паявіліся цудоўныя і прыгожыя баравічкі. Дык думаю, што ў шэрай штодзённшчыне напаткае цябе нарэшце прыгожае і праўдзівае пачуццё, бо і грыбы ж былі не абы-якія — праўдзіўкі... Гэтае пачуццё прынясе табе вялікую радасць.

**Астрон**

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: З. працаваў на фабрыцы і цяжка захварэў. Праз шэсць месяцаў хваробы ён быў звольнены з працы. Лячыўся яшчэ пяць месяцаў і выздаравеў настолькі, што мог бы вярнуцца працаваць на ранейшую пасаду. Аднак кіраўніцтва фабрыкі адмовіла прыняць яго на працу, тлумачачы, што няма месца. Ці працаўнік можа патрабаваць, каб усё ж прынялі яго на ранейшую пасаду?

АДКАЗ: Кодэкс працы прадбачыць, што калі працаўнік, звольнены з працы ў выніку працяглай хваробы пасля выздараўлення, але не пазней, чым на працягу наступных шасці месяцаў ад звальнення з працы з'явіцца на сваім прадпрыемстве і заявіць, што хоча прыступіць да працы, прадпрыемства павінна па меры магчымасці прыняць гэтага працаўніка. На ранейшую пасаду прадпрыемства мае абавязак прыняць працаўніка толькі ў тым выпадку, калі б было яно вольнае. Калі ж пасаду гэту займае хтосьці іншы, то прадпрыемства можа даць іншую адпаведную працу. Калі б прадпрыемства вольных месц не мела, мае яно права не прыняць былога працаўніка на працу. Ніякая кампенсацыя пры гэтым працаўніку не належыцца. Калі прадпрыемства можа даць працу, але адмаўляецца, трэба звярнуцца ў адвалаўчую камісію па справах працы.



**БЕЛАРУСКАЯ МОДА**

*Сукенка з шэрага ільну з шэрымі карункамі (з мінскага Дома мадэляў).*

**Куток практычных ведаў**




## З беларускай кухні

### БОРШЧ

Узяць: паўкілаграма касцей ад капчонай грудзінкі, паўкілаграма ялавічыны, 2 сардэлькі, 3 буракі, 4 бульбіны, 2 морквы, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, лыжку таматнай пасты, 5 дэкаў саланіны, 1 лыжку мукі, 1 лыжку цукру, 1 лыжку 6-працэнтнага воцату, 3 лыжкі смятаны, прыправы.

Зварыць мяса і косці. Нарэзаныя саломкай моркву, пятрушку і цыбулю смажыць на саланіне 10 мінут. У звараны булён палажыць парэзаную бульбу, звараныя раней і нарэзаныя саломкай буракі, падсмажаную муку і валашчыну, варыць яшчэ мінут 15, дадаць цукар і воцат. Разліваючы боршч, у кожную талерку палажыць кавалкі мяса, нарэзаныя сардэлькі і смятану.

### МЯСА, ФАРШЫРАВАНАЕ ГРЫБАМІ

На паўкілаграма ялавічыны трэба ўзяць 20 дэкаў пячурыц, 3 цыбуліны, 8 дэкаў масла, перац, соль, зеляніну.

Зварыць грыбы, падсмажыць дробна пасечаную цыбулю і вымяшаць яе з грыбамі. Мяса нарэзаць упоперак валокан, кожную порцыю добра збіць, на сярэдзіну палажыць фарш і загарнуць мяса, як блінчык. Падсмажыць на разагрэтым тлушчы. Падаваць з бульбай і печанымі яблыкамі, пасыпаць зелянінай.

### САЛАТА „ВІНЕГРЭТ“

На салату бярэм: 10 дэкаў морквы, 20 дэкаў буракоў, 30 дэкаў бульбы, 20 дэкаў кіслай капусты, 20 дэкаў к.слых агуркоў, 20 дэкаў цыбулі, 30 дэкаў маянезу, 10 дэкаў алею, 80 дэкаў філе селядцоў, 10 дэкаў цукру, перац.

Буракі, бульбу і моркву памыць і зварыць у скурках, астудзіўшы і абабраўшы, нарэзаць кубікамі. Кіслую капусту адцісніць з соку, селядцы нарэзаць. Усё спалучыць разам, дадаць алей, частку маянезу і прыправы. Заліць салату маянезам і прыбраць селядцом і зелянінай.

### КУРЫНАЯ ПАХЛЁБКА

На 30 дэкаў курыцы трэба ўзяць 3 бульбіны, 2,5 дэкаў масла, 1 цыбуліну, валашчыну, 2,5 дэкаў сушаных грыбоў, 2 лыжкі смятаны, чайную лыжачку таматнага канцэнтрату, прыправы, зеляніну.

Палажыць у чыгунок падвараныя кавалкі курыцы, звараныя грыбы, падсмажаную цыбулю, моркву, пятрушку і сэлер, заліць усё гэта булёнам з курыцы і наварам з грыбоў. Уставіць у духоўку на 15-20 мінут. Дадаць падсмажаны на масле таматны канцэнтрат і варыць яшчэ мінут 5. Перад падачай палажыць смятану і пасыпаць зелянінай.

**Гаспадыня**




8

У ранішняе неба ўзляцеў „Юнкерс-88“. У экіпажы быў і палкоўнік фон Хасель. Яго загад лётчыкам гучаў коратка: знайсці і знішчыць варожую падлодку, якая ідзе пад нямецкім флагам і дала правакацыйную радыёграму аб бедстве, каб прыцягнуць да сябе нямецкія караблі.

Машына ляцела так нізка, што ў паўзмроку можна было ўбачыць рух хваляў. Праз дваццаць мінут пілот далажыў:

— Прама па курсу, гер оберст, відаць шлюпкі.

Гэта былі тыя, хто вырataваўся з „Мемеля“.

— Сімуляцыя бедства, — сказаў фон Хасель. — У іх матросы варожай падлодкі. Атакуйце іх кулямётамі.

Пілот з захапленнем пакруціў галавой:

— Здорава прыдумана!..

Ён не ведаў, што звычайная падводная лодка не ў стане транспартаваць на сабе тры шлюпкі з людзьмі.

Застрачылі кулямёты. Пасля шостага круга ўсё было скончана.

„Юнкерс“ узяў курс на захад. У кабіне пахла паленым порахам, і палкоўнік закашляўся. Пілот употай усміхаўся: у вырatavальнай камізэльцы і з парашутам цыбатая фігура фон Хаселя выглядала даволі камічна. Палкоўнік загадаў узяць курс вышэй. Машына павольна ўзлецела і зноў перайшла ў гарызантальны палёт.

— Па курсу злева падводная лодка, гер оберст!

— Дзе?

Адзін з лётчыкаў паслужліва працягнуў палкоўніку бінокль:

— Вунь там, уперадзе, гер оберст!

Цяпер і фон Хасель убачыў падобнае на верацяно цела падлодкі. Ён даў загад падрыхтавацца да атакі. Такім чынам, пачыналася рашаючая заключная частка яго місіі. Пасля абеду ён вернецца ў сталоўку і даложыць аб выкананні задання.

Але ён не падазраваў, што не так проста пусціць лодку на дно з першага налёту. Ён не ўлічваў, што лодка вельмі малая і вузкая, каб быць добрай цэллю з паветра, не думаў, што калі яна мае добрых артылерыстаў, яе агнявая заслона небяспечная для самалёта. Першая бомба ўпала прыкладна за паўсотні метраў ад лодкі.

— Цэльцеся больш дакладна! — злосна загадаў палкоўнік.

Знізу стралялі апазнавальнымі ракетамі.

Новы заход. На гэты раз вадзяны слуп узняўся проста перад носам лодкі. Секунду нават здавалася, што цэль пашкоджана. Але ўнізе здагадаліся змяніць ход, цяпер лодка рухалася рэзкімі зігзагамі. Пры наступнай атацы насустрач „Юнкерсу“ рвануўся асляпляльны струмень агню.

Пырснулі асколкі плексігласавага ліхтара кабіны. Пілот быў ранены і кантужаны.

— Кулямёты да бою! — спалохана закрычаў палкоўнік.

Машына зноў рынулася ў піке. Застрачылі кулямёты. З лодкі адказалі ўзмоцненым агнём.

Фон Хасель сціснуўся ў камяк. Ён зразумеў цяпер, што самалёт могуць збіць. З вялікай ахвотай ён спыніў бы гэту атаку, але з якімі вачыма вернецца ён у стаўку, не выканаўшы задання!

Не, лодка павінна быць знішчана ў што б там ні стала!

У наступны момант кабіна напоўнілася ляскатаннем і грукатам. Забіты стралок упаў на кулямёт. Пілот крыкнуў:

— Я паранен, гер оберст!

Па яго пабялелым твары сцякала кроў.

— Вышэй! — гаркнуў фон Хасель. — Ідзіце ўверх!

Машына задрала нос у неба. Пілот стагнаў.

— Гарым! Глядзіце, мы гарым! — закрычаў трэці член экіпажа. З правага матора вырывалася сіняватае полымя.

Фон Хасель з адчаем паглядзеў уніз, на мора, якое варожа плёскалася пад імі. Густы едкі дым напоўніў кабіну.

— Трэба прыгаць, гер оберст!

Фон Хасель, хістаючыся, дабраўся да пілота, крануў яго плячо.

— Вы павінны пры любых акалічнасцях дацягнуць да берагу, чуеце?

Голас яго сарваўся. Пілот павярнуў да палкоўніка заліты крывёю твар, ён задыхаўся:

— Не... не магу... позна ўжо... трэба прыгаць...

Трэці дзелавіта напампоўваў надзіманую лодку Ён вылаяўся.

— Прыгайце ж, каб вас чорт узяў! Вы што, не бачыце?..

І не закончыў фразы. Поўнымі жаху і здзіўлення вачыма ўставіўся на дула пісталета. Выстралы палкоўніка патанулі ў грукаце матораў.

„Юнкерс“ кінуўся ўправа, перакуліўся і, цягнучы за сабой чорны шлейф дыму, пачаў падаць у мора.

Разгойдваючыся на стропах парашута, фон Хасель бачыў, як над самалётам самкнуліся хвалі.

**(Працяг будзе)**

# Сямейная размова

Яе пачаў бацька:

— Ты кінь, сынку, корчыць дурня ў школе! Мы ўсе ў тваім узросце былі не анёлы. Але калі атрымаў двойку, рабі высновы — зірні ў тую кніжку...

Пеця чакаў гэтай размовы:

— А мяне не выклікаюць!

— Ды на месцы настаўніка і я б цябе месяц не чапаў. Дрыжы і вучы, ёлупень! Ты слухай, як я рабіў. Калі нічога не ведаю, руку да столі цягну. Поўная гарантыя — не выклічуць. А пачытаю штокольвечы — як мыш сяджу. Настаўнік адразу — да дошкі, Іван Чыжыкаў! Вось твой родны дзядзька схлусіць не дасць.

Дзядзька злёгку стукнуў пальцам па стале:

— Свавольнік ты, Пеця! Гэта ж трэба, сам дырэктар бацькам звоніць! Ну, што яшчэ ты там выкінуў?

— Рагатку знайшлі...

— Вядома, такую рагатку, як у цябе, за паўвярсты ў кішэні ўбачыш. Сам школу прыгадваю. Відаць, разумнейшыя мы былі. На пальцы гумкі тоненькія нацягнем, і — зарадзікі з дроцікаў, паперы... Пачнуць шукаць, а ты рагатку — у рот...

Падтрымала размову і маці:

— А я так скажу: не трэба, сынок, табе сяброў. Да дабра не давядуць. У школу гуртам, са школы гуртам, кагалам у кіно. Скажы — галава баліць! І бягом дадому. Дзверы на замок — забаўляйся сабе. І каб бабулю слухаў...

— Унучак, ідзі сюды! Дай вушка, — пачуўся, як звычайна ў такіх выпадках, выратавальны голас бабулі. — Няўжо больш месца няма, акрамя маёй шафы. Чуе душа, і сёння не абыдзецца без дзяті.

— Маўчы, бабуля! Я хутка, — упаўголасу сказаў Пеця, і, азіраючыся, палез у шафу перахоўваць дзённік.

**Васіль Найдзін**



*Без слоў.*



...Народжаны хадзіць — лётаў... на чужых крылах...

# НІЎКА



*Музыкальнае трыо.*

### У ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Доктар, я не ведаю, што рабіць з маім сынам. Ужо некалькі дзён ён нічога не бачыць.

— Не хвалюйцеся. Я раю вам адвесці яго ў цырульню.

### ТОЛЬКІ НАПЕРАД

Адна задрыпанка садзіцца ўпершыню за руль аўтамабіля разам з інструктарам.

— Мне не трэба паказваць, як рабіць задні ход. Я ніколі ні перад чым не адступаю.




### ЛІПАВЫ МЁД

Прыехаў селянін на базар мёд прадаваць. Падышоў да яго пан і пытаецца:

— Які мёд?

— Ліпавы, — адказвае селянін.

— А колькі просіш за кілаграм?

— Тры рублі...

— Усяго тры рублі? Хлус! У цябе не ліпавы мёд...

І пацягнуўся пан далей па базары. А хітры селянін падхапіў бочку з мёдам і непрыкметна забег яму наперад.

— У цябе які мёд? — зноў пытаецца ў селяніна пан.

— Ліпавы, — адказвае той.

— Колькі за кілаграм просіш?

— Пяць рублёў...

— Во гэта сапраўды ліпавы! — задаволена кажа пан і лезе ў кішэню па грошы.

### ЗА ФАЛЬКЛОРАМ

— Бачу, хлопцы, вы зялёныя,
Раскажу як ёсць праклёны я.
Напачатку прошу ў сшытак:
„Каб ты з'ехаў з лытак..."
А далей —
Пойдзе яшчэ весялей.
Каб табе горка стала,
Каб табе памяць адабрала,
Каб ты смалы набраўся,
Каб ты кашулі сваёй баяўся,
Каб ты да вечара не дажыў,
Каб ты галавой налажыў,
Каб цябе гром забіў,
Каб ты ракам хадзіў,
Каб...
— Ціха, стары! Паляжы...
Чуеш — хлопцы заснулі.
— Ага... Не кажы.
Ах, каб іх качкі ўбрыкнулі!..

**Вячаслаў Дашкевіч**



*Праверка нюху.*



*Размінка.*

### НЕ КРЫЧЫ

— Ратуйце! — крычыць задрыпанец, які выпадкова трапіў у раку. — Я не ўмею плаваць!

Другі задрыпанец, які бачыў, як гэта здарылася, адказаў яму:

— Я таксама не ўмею плаваць, але ж я не крычу і нікому пра гэта не кажу.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчынкі з Міхалова змяшчаем песню*

## Gdzie lepiej niż tu

(VIVA ESPANA)

słowa: Ryszard Czubaczyński
mel. hiszpańska
śpiewa: Stenia Kozłowska

Choć wyjeżdżasz gdzieś daleko w obce kraje
to jednak musisz uznać ten fakt
że powroty jeszcze większy urok mają
gdy człowiek tęskni do bliskich spraw
Że świat jest piękny o tym dobrze wiesz
Lecz najlepiej zawsze w domu jest.

Bo przecież milszy własny kąt
i uśmiech przyjazny
Najlepsze myśli bierzesz stąd
i zna cię tu każdy
Masz więcej słońca w każdym dniu
do marzeń też bliżej
Nie wmówi więc mi tego nikt
Że gdzieś lepiej jest niż tu

Więc zapraszam cię na spacer naszą drogą
w ten pejzaż, który tobie chcę dać
Czy dorównać jemu jakieś miejsca mogą
czy takich ludzi... można gdzieś znać
Że świat jest piękny — o tym dobrze wiesz
lecz najlepiej zawsze tutaj jest...

Bo przecież... itd.
la, la, la, la...
i uśmiech przyjazny
La, la, la, la, la...
i zna cię tu każdy...
Że gdzieś lepiej jest niż tu
Że gdzieś lepiej jest niż tu



— *Муж мне ніколі слова дурнога не скажа.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Дзяўчынка з маці праходзяць каля дома, у якім жыў Віктар Гюго.

— У гэтым доме нарадзіўся вялікі чалавек, — гаворыць маці.

— Вялікі? А я думала, што дзеці нараджаюцца зусім маленькімі.

*

Адвакат: Ці ведаеш ты, што будзе за ілжывыя паказанні?

Падсудны: Ведаю. Мяне за гэта павесяць.

Адвакат: А ці ведаеш ты, што будзе, калі ты скажаш праўду?

Падсудны: Мы прайграем працэс.

*

— Чаго ты засумаваў, таварыш старшыня?

— Ды вось пра нашых даярак у газеце напісалі.

— Крытыкуюць?

— Ды не, хваляць.

— Ну, дык радавацца ж трэба!

— Узрадуешся! Заўтра ж з іншых калгасаў да іх сваты прыедуць.




### ДЗЕЦІ — ПА ЗАКАЗУ

З даўніх пор людзі кажуць, што як дзецям немагчыма выбіраць сабе бацькоў, так і бацькам нарадзіць дзяцей па заказу. Але ў Англіі гэтая непарушная ісціна даўно абвергнута і абвяржэнне зыходзіць ад дзяржаўнага заканадаўчага акта. У кодэксе законаў, якія рэгламентуюць нормы сямейнага жыцця вялікабрытанцаў, ёсць такая агаворка: сям'я, у якой дзіцё нарадзілася да 1-га красавіка, мае права на паніжэнне падаткаў на ўвесь бягучы год.

Чым, якімі сур'ёзнымі магічнымі меркаваннямі была выклікана да жыцця гэтая ўмова, ніхто да гэтай пары толкам не ведае, але ж захоўваецца яна непахісна, як закон. А паколькі людзі імкнуцца заўсёды пэўным чынам прыстасавацца да патрабаванняў і выгад закону, то многія англічане даўмеліся скарыстаць у асабістых інтарэсах і гэтую акалічнасць. Хоча таго дзяржаўная ўлада ці не, а ў апошнія гады даводзіцца вельмі многім сем'ям паніжаць падаткі. Статыстыка сведчыць, што якраз у два апошнія тыдні сакавіка на брытанскіх астравах нараджаемасць значна вышэй, чым у іншыя месяцы года. Бульварная прэса не выпадкова называе сакавіцкіх немаўлятак „вясеннім выпадкам".

### ДВА ВІДЫ

Плакат каля шашы: „Ёсць толькі два віды пешаходаў — асцярожныя і мёртвыя!"




**Самы страшны сабака той, які не брэша.**